легіі ў прысутнасьці Віленскага біскупа й Капітулы. Спачатку ў школе выкладаліся прадметы, зьвязаныя з ыторыкай (граматыка, літаратура, лёгіка, красамоўства, дыдактыка), але ўжо 10 дзён пазьней (18 тр. 1570), у гадавіну інгрэсу (пастанаўленьня) Віленскага біскупа на катэдру, школа была паднесена да ступені Калегіі, ды былі падрыхтаваныя аддзелы: філязофіі й тэалёгіі, апрача йснуючай рыторыкі.

Заснавальнікі Віленскай Акадэміі адразу забясьпечылі яе так у матарыяльныя засобы, як і ў навуковыя дапаможнікі, а таксама ў высокаадукаваны прафэсарскі пэрсанал.

Галоўнымі пратэктарамі Калегіі былі: кароль, ёнжа й Вялікі Князь Літоўскі, Жыгімонт Аўгуст, Віленскі й Жамойцкі біскупы, каад'ютар Віленскага біскупа – князь Юры Радзівіл. Адной з патрэбаў Калегіі была арганізацыя бібліятэкі. Ужо ў 1570 г. кн. Юры Радзівіл перадаў Віленскай Калегіі ўсю сваю бібліятэку. Яна сталася асновай кніжнага фонду, які перайшоў пасьля ў Віленскую Акадэмію. Другім важным дарам была бібліятэка Жыгімонта Аўгуста, караля й вялікага князя Літоўскага, якую ён перадаў Віленскай Калегіі 6 травеня 1571 г. Бібліятэка гэтая знаходзілася ў Віленскім замку, й пачынаючы ад 1574 г. на працягу 25 гадоў павялічвалася рознымі цэннымі зборамі. (У. Пічэта, Пытаньне аб вышэйшай школе на Беларусі ў мінулым; Працы Бел. Дзярж. Ун. ў Менску №19, 1928). У часе „патопу" (1648–1667) цэнны збор кніжак Жыгімонта Аўгуста быў разграблены рознымі наезьнікамі й толькі некаторыя кніжкі знойдзеныя ў польскіх, расейскіх і швэдзкіх бібліятэках.

Першыя пачаткі навуковай дзейнасьці езуітаў у Вільні ня былі лёгкімі. Зламаць непрыхільнае настаўленьне пратастантаў удалося праз дабрадзейную ды міласэрную дзейнасьць у часе страшнага памору ў 1573 г. Тады езуіты выявілі вялізную дзейнасьць так харытатыўную, як і маральную. Віленская Калегія ўславілася сваімі публічнымі дыспутамі, выстаўкамі, паходамі, тэатральнымі сцэнамі, канцэртамі й г.д. – нядамі дасюль акцыямі публічнага характару ў духу заходня-эўрапэйскага рэнасансу...

Сьмерць Жыгімонта Аўгуста ў 1572 г. не дазволіла яму поўнасьцю зьдзейсьніць ідэю ўстанаўленьня ў Вялікім Княстве Літоўскім у ягонай сталіцы – Вільні – Акадэмію тыпу заходня-эўрапэйскага.

Зрабіў гэта ягоны наступнік: Сьцяпан Баторы 7 ліпеня 1578 г., падносячы Віленскую Калегію да годнасьці Акадэміі, зраўноўваючы яе ў правох і прывілеях з Кракаўскай Акадэміяй. Іншым дакумэнтам з 1-га красавіка 1579 г. Сьцяпан Баторы дазваляў Акадэміі свабоднае навучаньне тэалёгіі, філязофіі й прыродаведна - матэматычных навук за выключэньнем мэдыцыны й права. Адначасова за Акадэміяй прызнавалася поўная аўтаномія, вызваленьне ад судовай і адміністрацыйнай падуладнасьці, а таксама свабоду ад данінаў і мытаў. Урэшце папа Рыгор XIII бульляй з 29 кастрычніка 1579 г. зацьвердзіў Віленскую Акадэмію, як роўную ў правох з усімі эўрапэйскімі ўстановамі гэтага тыпу. Уканцы Варшаўскі Сойм Абодвых Народаў Каралеўства й В. Кн. Літоўскага з 1583 г. з свайго боку зацьвердзіў усе каралеўскія наданьні, ўключна з маёнткамі Тракалі ля Вільні ў карысьць Акадэміі. Першым рэктарам Акадэміі быў выбраны Пятро Скарга.

Першапачатковая Віленская Акадэмія мела два факультэты: філязофіі й тэалёгіі. На першым факультэце (філязофіі) выкладалася: лёгіка, фізыка, мэтафізыка, рыторыка, паэтыка, матэматыка, геаграфія й старыя мовы: гэбрайская, грэцкая й лацінская. Сюды належалі ў старэйшых клясах нацыянальныя мовы: беларуская, італьянская, гішпанская, нямецкая й польская. На тэалягічным аддзеле былі гэткія прадметы: сьв. пісьмо, тэалёгія схалястычная, палямічная й маральная, казуістыка, кананічнае права й старыя мовы. (И. И. Лаппо, Виленская Академия, 8).

У складзе двух факультэтаў Віленская Акадэмія праіснавала да 1641 г., калі Ўладыслаў Ваза, 11 кастр. 1641 г. выдаў грамату аб праве Акадэміі на адкрыцьцё двух новых факультэтаў: права й мэдыцыны. Аднак недахоп прафэсараў ды навуковых уладжаньняў і дапаможнікаў не дазваляў на працягу гадоў арганізаваць мэдычны факультэт. Затое ў тымжа 1641 г. заіснаваў юрыдычны факультэт. Вялізныя заслугі ў наладжаньні гэтага факультэту належацца сыну слаўнага Канцлера Льва Сапегі – Льву Казіміру Сапезе. Ён утварыў фонд у суме 12 500 зл. у золаце на ўтрыманьне 4 прафэсараў права, ды плаціў усе іншыя выдаткі факультэту.

У далейшым часе граматы Сьцяпана Баторага й Улад. Вазы, пацьвярджалі Ян Казімір, 9 лютага 1649 г., і Аўгуст II ў 1726 ды 1736 гадох.

Што датычыць разьвіцьця бібліятэкі Акадэміі, то як ведаем, яна пераняла кніжны фонд Калегіі. У канцы 16 ст. бібліятэка павялічылася дарам вучня Віленскай Акадэміі др. Лукаша Краснад'бскага, які ў 1594 г. запісаў ёй свае тэалягічныя кнігі на італьянскай і гішпанскай мовах.

У далейшым бібліятэка атрымала цэнныя зборы беларускага кардынала Юрага Радзівіла, які памёр у 1600 г. ды Віленскага суфрагана й біскупа Мікалая Паца (пам. 1619). У 1629 г. прыбылі зборы Віленскага япіскапа Эўстафа Валовіча, а ў 1630 г. – пісара польнага ВКЛ Крыштафа Міколы Сапегі.

Павялічыліся таксама грашовыя й зямельныя фонды Акадэміі. Так 13 верасьня 1623 г. пісар ВКЛ Андрыян Вярбіцкі перадаў Акадэміі свае маёнткі ў Віленскім ваяводзтве з умовай, каб з прыбытку іх 1000 зл. выдавалася Бібліятэцы на закуп патрэбных кніжак (Брэнштэйн, 10).

Такім чынам Віленская Акадэмія да сярэдзіны 17 ст., гэта значыць да часу маскоўскай навалы ў 1654–55 гг. прадстаўлялася знаменіта: мела 75 прафэсараў ды 700 студэнтаў. (Я. Бялінскі назв. праца, том III, 509).

* * *

Маскоўская навала ў 1654–55 гг. (пасьля пераходу Хмяльніцкага да Масквы) пры ўдзеле казацкіх войскаў Хмяльніцкага пад провадам Залатарэнкі, сталася запраўдным „крывавым патопам" Беларусі. Усе беларускія гарады былі спаленыя, або разбураныя, а насельніцтва, якое не пасьпела ўцячы, пускалася пад меч. У далейшым швэдзкі наезд, барацьба беларускіх войскаў кн. і гэтмана ВКЛ Януша Радзівіла ды Паўла Сапегі з маскоўскімі, казацкімі й швэцкімі наезьнікамі, голад, эпідэміі, вывад многага насельніцтва ў глыб Расеі, амальшто абязьлюдзілі Беларусь. Яна страціла 3/4 ўсяго насельніцтва.

Вось як апісвае Г. Масьціцкі (ў кнізе „Вільно", В-ва 1924, бб.21–24) тагачасныя падзеі пры штурме беларускай сталіцы:

*„У пачатках жніўня 1655 г. трыстатысячная армія, маскоўская й казацкая Залатарэнкі, заняла ўсходнюю й паўдзённую Беларусь ды набліжалася сярод пажарышчаў і разбурэньняў да сталіцы, да Вільні. Страх вялікі ахапіў горад. Хто мог, уцякаў у лясы, загранiцу; Віленскі япіскап з мошчамі сьв. Казіміра ў Каралевец, за ім манахі з цудоўным абразом Маці Божай з Вострабрамы. Мяшчане рыхтаваліся да абароны пры гарадзкіх брамах, у дамох, у манастырох, цэрквах і касьцёлах ды бажніцах. Але не хапала войска й праваднiкоў. Раніцою 8 жніўня падышоў вораг да мурой сталіцы, ахапіўшы яе з усіх бакоў. Пачаўся бой. Жудасьць агарнула наймужнейшыя сэрцы. Ніхто не хацеў здавацца... Хутка ў горад прарваліся казакі, мігам узялі гарадзкія брамы, ўмацаваныя цьвярдзіні: дамы, касьцёлы, цэрквы, бажніцы, мэчэты. У палон не бралі, але секлі на месцы. Выцягвалі з жылых дамоў няшчасных людзэй рознага веку й полу і ў расьпянелай сваволі выдумоўвалі макабрычныя мукі над сваімі ахвярамі. Хутка ўсе вуліцы былі засьцелены змасакраванымі трупамі, без адзеньня, абутку... Кажуць, што ў тым адным дні загінула 25 тысяч людзей"...*

Віленская Акадэмія, як нацыянальная скарбніца, на падабенства мошчаў сьв. Казіміра й Абразу Вострабрамскай Маці Божай, была вывезеная ў Прусы, ў Кэнінсберг. Туды падаліся ў бальшыні прафэсары й студэнты. Вывезеныя былі таксама найбольш каштоўныя кніжныя зборы акадэміцкай бібліятэкі. Частка аднак кніжнага фонду трапіла ў рукі швэдаў ды была зьвернена на аснове Аліўскага мірнага дагавору.

У 1661 г. Масква прымушаная была пакінуць Вільню й Беларусь па Дняпро. У спаленую ды абязьлюдную сталіцу-Вільню пачалі вяртацца недабіткі. Вярнуліся мошчы сьв. Казіміра, цудоўны Абраз Вострабрамскай Маці Божай, вярнулася й Віленская Акадэмія. Аднак ужо аж да канца існаваньня Вялікага Княства Літоўскага, гэта значыць да канца 18 ст. сталіца Беларусі – Вільня ня здолела залячыць нанесеных ранаў. Не змагла нанава зазіяць і Віленская Акадэмія, хоць наладзіла сваю працу хутка пасьля вызваленьня заходня-дняпроўскай Беларусі. Абяднелая краіна не змагла цяпер запрасіць найлепшых вучоных заходняй Эўропы, ані вытварыць собскіх. Трэба было ўсё пачынаць спачатку.

Разграбленая Віленская Акадэмічная Бібліятэка ўкамплектоўвалася новымі фундацыямі. Перш за ўсё цяпер у яе ўлілася „бібліятэка Сапегі" – сына славутага канцлера, які яшчэ ў 1644 г. запісаў свае навуковыя зборы Акадэміі. Названая „бібліятэка Сапегі" налічвала да 3000 назоваў. За Сапегай пайшлі йншыя. Так у 1677 г. перадаў Акадэміі сваю бібліятэку канцлер Віленскай куры Казімір Вайнаровіч. У 1772 г. парайшла ў Акадэмічную бібліятэку кніжніца Віленскага біскупа Казіміра Брастоўскага. Тое сама зрабіў ягоны наступнік Мацей Язэп Аўкута.

У палове 18 ст. браты Казімір і Міхась Вярбіцкія перадалі Акадэміі каля 16 000 залатых на абсталяваньне бібліятэкі. Была таксама падараваная камяніца, даходы зь якой (200 зал.) прызначаліся на патрэбы бібліятэкі (Брэнштэйн, 17). Дзякуючы гэтым фундацыям Акадэмія зноў сталася галоўнай крыніцай вышэйшай асьветы ў Беларусі.

*(працяг у наступным нумары)*

# З Жалобнай Хронікі

**+Сьвятой памяці Хведар Міраноўскі**

30-га сьнежня 1978-га году адыйшоў на вечны супачынак Сьвятой Памяці Фёдар Міраноўскі, на 72-м годзе жыцьця.

Ён быў пажыцьцёвым Царкоўным Старастаю Прыходу Сьвятое Троіцы Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы ў Доратьі, Ню Джэрзі. За сваю ахвярную працу быў узнагароджаны Яго Высокапрэасьвяшчэньнейшым Мітрапалітам Андрэям спэцыяльнай Граматай. Паховіны адбыліся 3-га студзеня 1979-га году. З гэтай сумнай нагоды ў Царкве Сьвятое Троіцы ў Доратьі а. Прат. Карп адслужыў Св. Літургію й Паніхіду. Пахаваны на Гарадзкім могільніку ў Вайнлэнд.

Нябошчык асіраціў жонку Тацяну, сыноў і ўнукаў. Памінальны абед адбыўся ў царкоўнай салі Прыходу Св. Троіцы ў Доратьі, на якім прысутнічала больш за 60 асобаў.

Ад імя Кансысторыі й Прыходу Жыравіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парк, прысутнічаў Сп. Мікалай Войтэнка. Ён зьлажыў шчырыя спачуваньні сямьі памершага Хведара Міраноўскага й зазначыў, што сыны Св. Памяці Хведара пяройм(у)ць працу Свайго Бацькі й будуць працаваць на Славу Божую й для свайго прыходу ў Доратьі.

*Сьпі, БРАЦЕ ХВЕДАРУ, на вольнай зямлі Вашынгтона!*
*Хай сьніцца ТАБЕ Родныя Гоні!*

– Прысутны: М.В.

**+Сьвятой памяці Павло Цьвірко**

28-га сьнежня 1978 году, пасьля кароткай і цяжкай хваробы адыйшоў у вечнасьць, заслужаны рэлігійны й грамадзкі працаўнік, Св. памяці Павло Цьвірко.

Нарадзіўся Павло Цьвірко, 16-га жніўня 1906 году, ў вёсцы Бахіня, Жыдкоўскага раёну, Менскага Округа, дзе пражываў з сваёй сямьёй да Другой Сусьветнай вайны. Апынуўшыся спачатку ў Нямеччыне, адкуль па пэўным часе эміграваў у Бразылію. Пражыўшы некалькі гадоў у Бразыліі св. памяці Паўло Цьвірка пераезджае да З.Ш.А. У Амэрыцы настала затрымліваецца ў Чыкага аж да апошніх дзён свайго жыцьця.

Павло Цьвірко быў добры спакойны, чалавек, любіў царкву, ніколі не апусьціў, у вольны час ад працы што-дзённай, любіў паехаць на рыбы, то яго быў спорт. Так прашло добрага спакойнага беларуса жыцьцё тут у Чыкаго.

Паховіны адбыліся 30-га сьнежня, на Магільніку Эмвуд Парк, блізка свае св. памяці памершай жонкі, каторая там ўжо спачыла. Заўпакойную Службу Божую адправіў Архімандрыт а. Язэп (Строк) у саслужэньні Дзіякана а. Марка, ў Беларускай Праваслаўнай Царкве „Сьвятога Юрыя" да якой належаў св. памяці Павло.

Пакойны пакінуў у вялікім смутку сваю любімую дачку Ніну з мужам Міхаілам, унука й маленькую ўнучку. Швагра Павла Судніка з жонкай Ліляй, тры замужныя пляменьніцы, двох пляменьнікаў з жонкамі й усіх парафіян, знакомых і прыяцеляў.

Сьпі наш Дарагі Павло! Няхай будзе Табе Пухам Амэрыканская зямелька! Успамін аб Табе назаў-

*(працяг на 8-ай бачыны)*

# КАНФЭРЭНЦЫЯ ЯПІСКАПАЎ

*(працяг з 4-ай бачынкі)*

17 і 18 кастрычніка, 1978 году ў Джонстаўн, Пэнсылванія, ЗША, адбылася гістарычная Канфэрэнцыя Япіскапаў усіх праваслаўных цэркваў у Амэрыцы.

На гэтую канфэрэнцыю быў запрошаны й наш, Яго Міласьці Найпачасьнейшы Андрэй, Мітрапаліт Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Дзеля ня зусім добрага здароў'я Мітрапаліта Андрэя, заступаў яго на Канфэрэнцыі Архіяп. Мікалай з Таронта.

Гэтая гістарычная Нарада Япіскапаў была склікана з адабрэньня старшыні Сталае Нарады Праваслаўных Япіскапаў Амэрыкі (СНПЯА–SCOBA) Найпрачасьнейшага Якуба (Якаваса) заступніка (экзарха) Ўсясьветнага Праваслаўнага Канстантынопальскага Патрыярха Дзімітрыя I, Пачэсным Янам, Япіскапам і Першым Герархам Карпатарускай Япархіі ў Амэрыцы. Япіскап Ян быў гаспадаром Нарады, а ўрад Япархіі Карпатарускай ўзяў на сябе аплату ўсіх коштаў Нарады.

У аўторак 17 кастрычніка, ў Шэратон Ін адбылося першае паседжаньне Япіскапаў. Потым, а 5-й гадзіне ўвечары ў Карпатарускім Катэдральным Храме Хрыста Спаса Служылася Вячэрня, ачоленая Арх. Якубам (Якавас) у саслужэньні трох сьвяшчэньнікаў. Вялікі храм быў цесна запоўнены вернікамі.

Пасьля Вячэрні ў Сунегана Каўнтры Клуб (Sunnehana Country Club) зладжана супольная вячэра для архірэяў і сьвяшчэньнікаў, што прыехалі з сваімі япіскапамі, і асоб мясцовых уладаў. Малітву прад ядою сказаў архіяп. Вікторын Румынскае Праваслаўнае Місіянерскае Япархіі. Магістар места Сп. Чарлс Томльяновіч прывітаў прыбылых архірэяў і выказаў задаваленьне з таго, што гэтая вялікая гістарычная падзея адбываецца ў ягоным месьце за ягонага ўрадаваньня. На вячэры прамаўляў Архіяп. Якавас і выказаў мэту скліканьня Нарады ды зьвярнуў увагу на цяжкасьці, якія знаходзяцца на шляху Праваслаўнай Царквы. Між іншым ён сказаў, што ня ёсьць ягоным імкненьнем падпарадкаваць іншыя юрысдыкцыі, бо гэта ня ёсьць справаю Праваслаўнай Царквы, але неабходна нам знайсьці лучнасьць у супольным дзеяньні. Яшчэ варта адзначыць у мове Архіяп. Якаваса, дзе ён адказваў тым, якія думаюць, што пераход на ангельскую мову ў царкве можа выратаваць Яе. „Ня мова", ён казаў, „а праваслаўная вера ў Хрыста ўтрымае людзей пры праваслаўю."

У сераду, 18 кастрычніка, адбылося другое паседжаньне Канфэрэнцыі. Двохдзённая праца Праваслаўных Япіскапаў Амэрыкі закончылася тым, што ўсе прысутныя япіскапы пагадзіліся прадаўжаць запачаткаваныя перагаворы ў справе вялікае праваслаўнае адзінасьці й зразуменьня. Наступная падобная Канфэрэнцыя назначаная на 10 травеня, 1979 году, у будынках Грэцкае Япархіі ў Ню Ерку.

На другім паседжаньні была паклікана камісія, якая займецца праектам спраў адумысловага вышэньня й ліквідацыяй перашкодаў да еўхарыстычнай лучнасьці. У камісію ўвайшлі: яп. Ян (Карпатарускай Япархіі), яп. Сілас (Грэцкае Япархіі) і яп. Гэрман.

На другім паседжаньні архіяп. Якавас, які быў старшынёю абодвых паседжаньняў, заклікаў япіскапаў падыходзіць да еднасьці ў межах праваслаўя. Ён закончыў сваю прамову словам: „Хрыстос сярод нас!", „Ёсьць і будзе!" быў адказ. Пры разьвітаньні архірэяў панавала цёплая прыхільнасьць, любоў і надзея на лепшае.

Восемнаццаць гадоў таму, ў 1960 годзе, была створаная арганізацыя: *Сталая Нарада Праваслаўных Япіскапаў у Амэрыцы (СНПЯА).* Прадбачваецца, што Праваслаўныя Цэрквы застануцца пры сваіх юрысдыкцыях, але задзіночаныя ў СНПЯА. Мэтай стварэньня й было задзіночаньня Цэркваў. Агалошаньне ў Джонстаўн павінна радаваць кожнага праваслаўнага хрысьціяніна. Дык, памажы Божа, пачатай справе паразуменьня й вызнаньня між ПраваслаўнымiЦэрквамі ў Амэрыцы!

*— М. Грыбок*




# Царкоўны Служэбнік у Беларускай Мове

Дарагія Суродзічы!

Шмат гутаркі было, а час да-часу, былі націскі на япіскапаў, каб у службах мы ўжывалі родную мову. А таксама на Саборы БАПЦ 29 чырвеня, 1972 году, разважалася пра родную мову ў багаслужбах.

З Божае ласкі, ужо зданы да друку служэбнік. Зьмест яго наступны: 1) Трэба ведаць – тлумачэньне для сьвятароў і міранаў; 2) Сустрэча архірэя – калі служба архірэйская; 3) Праскамідыя; 4) Сьв. Літургія Яна Залатавуснага й Васіля Вялікага; 5) Малітвы сьвятарства саслужнікаў у сьв. Літургіі; 6) Водпусты; 7) Пракімены; 8) Трапары.

Служэбнік мае выйсьці на продаж, прыблізна, у ліпені 1979 г. Гэта ёсьць новая падзея ў гісторыі БАПЦ, бо ўпяршыню друкуецца служэбнік на роднай мове. Прыблізны кошт друку – каля 3,000 дал. Гэта ёсьць немалая сума, але яе трэба сабраць. Калі будзе выручка за служэбнік, дык рэшта пойдзе на выданьне напрастольнага Эвангельля й Апостала.

Дарагія Суродзічы! Я паслухаўся Вашага голасу й адважыўся выдаць служэбнік. Зьвяртаюся да Вас, прыйдзіце на сустрач сваімі ахвярамі! Дзеля пэўнасьці высылайце свае ахвяры банкавымі чэкамі на імя парафіі:

Byelorussian Autocephalic Orthodox Church
Parish of St. Kiryla of Turau
524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont.
Canada M6H 3W7

зазначаючы, што ахвяра на служэбнік.

Госпад і Збаўца наш Ісус Хрыстос нехай мае Вас у Сваей апецы, ды ахіне ўсіх Вас Сваей ласкай, любоўю й міласэрдзем!

*21 сьнежня, 1978 году*
*Таронта, Онтарыё, Канада*
+Архіяпіскап Мкалай

## ПАРАХВІЯ БАПЦ У АДЭЛАЙДЗЕ-АЎСТРАЛІЯ

Парахвіяне царквы Сьв. Ап. Пятра й Паўла ў Адэлайдзе вельмі дбайна адносяцца да ўтрыманьня й разбудовы свае сьвятыні. Царква, і, нядаўна пабудаваная заля побач, гуртуе каля сябе беларусаў, дзе адбываюцца ўсе царкоўныя й грамадзкія ўрачыстасьці. Пару гадоў таму дабудавалі прытвор, а ў мінулым годзе, з ініцыятывы Старшыні Парафіяльнае Рады К. Станкевіча дабудавалі 4 купалы, бо да гэтага часу быў адзін. Такім чынам царкоўны будынак прыняў прыгажэйшы архітэктурны выгляд.

Хвала ўсім тым, хто прыняў удзел у выкананьні гэтае ахвярнае працы.

*– Акавіты*

## ВЯЛІКІ КАЛЯДНЫ АБЕД У НЮ-ЁРКУ

На Каляды, 7-га студзеня сёлета, пасьля Св. Літургіі, якую адслужыў а. Расьціслаў Войтэнка, ўсе прысутныя сабраліся ў салі царкоўна-грамадзкага будынку. Людзей сабралася досыць многа. Настрой быў сьвяточны, прыемны. Пасьля абеду адбылася Дзіцячая Акадэмія

Вельмі ўдала была выканана Калядка „Ціхая ноч". Сьпявалі й іншыя Калядкі, дэкламавалі вершы, а Коля й Паўлік Рамано з вялікім энтузыязмам прачыталі казку...

У Калядней Дзіцячай Акадэміі прыймалі ўдзел: Таня й Ніна Заморскія, Паўлік і Коля Рамано й Антось Бартуль.

Узнагародаю для маладых артыстых былі гарачыя воплескі прысутных і Калядныя падарункі, якія яны атрымалі па закančэньні сваіх выступленьняў.

Урэшце Сп. Інж. Мікола Гарошка, Старшыня Парафіяльнай Рады, шчыра падзякаваў Спадарыням: Але Орса-Рамано, Веры Заморскай і Веры Бартуль за падрыхтаваньне Каляднага абеду, а таксама за актыўны іхны ўдзел у падрыхтоўцы прыгожай Каляднай імпрэзы.

*– Зіна Загорская*

# ПАДЗЯКА

Вельмі Паважаным
Сп. Ніне й Васілю Стомам
у Ню Брансвіку, Н. Джэрзі

Ад імя Парафіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага й свайго асабіста, выражаю Вам шчырую падзяку за ахвяраваную прыгожую лампадку, якая прыхарашыла Галгофу нашага храму.

„Сьвяцільнікі-лампады запальваюцца пры Багаслужбах для праяўленьня таго, што сэрцы веручых саграваюць полымям любові да Бога й сьвятых Яго, а таксама, для паказаньня радасьці ўрачыстасьці Царквы".

Дык сьвятло Вашае лампадкі няхай асьвячае духовым сьветам сэрцы прысутных на Багаслужбах нашых вернікаў у Саборы.

Мы будзем маліць Госпада нашага Ісуса Хрыста, каб Ён Міласьцівы ўзнагарадзіў Вас, атуляючы Сваею Ласкаю й апекаю.

26 студзеня 1979

*Мітр. Прат. Васіль Кэндыш*
*Кіраўнік Парахвіі*

## З ЖАЛОБНАЙ ХРОНІКІ

*(працяг з 7-ай бачынкі)*

сёды застаецца сярод усіх нас. Будзем узносіць малітвы за тваю душу Богу!

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!
*Сакратар Парафіі „Сьв. Юрыя"*
*Пётр Негода*

+**С. П. Агата Куленіч** на 73 годзе жыцьця, адыйшла ў вечнасьць 18.8.1978 г., матка ўсім ведамага сына Уладзімера. Сьв. Памяці Агата паходзіла з вёскі Яблонка каля Івацэвіч на Беларусі. Сьв. Памяці Агата была афярнай і добрай парафіянкай нашае Царквы.

Абрад пахаваньня выканаў а. Аўгэнь, хорам кіраваў рэгент Сп. М. Бурнос. Сьв. Пам. Агата пахаваная на могілках у Адэлайдзе. У вялікай жалобе пакінула сына Уладзімера, 4 дачкі, 8 унукаў і 1 праўнука. Пухам хай будзе Ей аўстралійская зямля й вечная памяць сярод нас.



## У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ

(1) В. Пануцэвіч, „400-годзьдзе Віленскага Ўнівэрсытэту".
(2) Др. В. Жук-Грышкевіч, „Прывітаньні Старшыні Рады БНР на 13-й Сустрэчы БПА".
(3) Я. Юхнавец, „Урачыстасьць у Садзе" (працяг).
(4) Др. Р. Жук-Грышкевіч, „30 год Згуртаваньня Беларусаў Канады".
(5) Др. Я. Скурат, „Будучыня Беларускай Іміграцыі".